Штотыднёвая газета

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года | 19 (527) 13 траўня 2010 года | Кошт свабодны





Айцец Сергій, настаяцель Чарневіцкага прыходу, асвячае пасеку фермера І. Карпені.













нумар
**166**
дзённа й ночна
абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае»

# Ó ñâÿòî÷íûõ ìåðàïðûåìñòâàõ ç íàãîäû Äíÿ Ïåðàìîã³ ¢ Áåëàðóñ³ ¢çÿë³ ¢äçåë àìàëü 1,3 ìëí. ÷àëàâåê




■ Вячаслаў Будкевіч, *БелаПАН.*

**9 мая ў святочных мерапрыемствах з нагоды Дня Перамогі ў Беларусі ўзялі ўдзел амаль 1,3 млн. чалавек. Пра гэта паведаміла ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС.**

Асноўныя мерапрыемствы з удзелам Прэзідэнта, прадстаўнікоў дзяржаўных органаў улады і кіравання, ветэранскіх, міжнародных і грамадскіх арганізацый, дыпламатычнага корпуса замежных дзяржаў, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і ганаровых гасцей адбыліся ў Мінску.

Так, з 12.00 да 13.10 у раёне скрыжавання праспектаў Пераможцаў і Машэрава прайшлі парад войск Мінскага гарнізона і спартыўна-маладзёжнае шэсце. За імі назірала больш за 350 тыс. чалавек. З 14.00 да 18.00 на пляцоўцы каля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбыўся святочны канцэрт майстроў мастацтваў з удзелам больш як 3 тыс. гледачоў, а з 14.30 да 19.30 на ўзбярэжжы ракі Свіслач і праспекта Пераможцаў, у раёне Палаца спорту, — народнае гулянне "У пасляваенным Мінску". Тут было не менш чым 7 тыс. чалавек. На пляцоўцы каля Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета з 17.00 да 18.30 на суд гледачоў быў прадстаўлены канцэрт-баль "Майскі вальс". Максімальная колькасць адпачывальнікаў не перавысіла 500 чалавек.

З 20.30 да 22.30 каля стэлы "Мінск— горад-герой" адбыўся сімфанічны канцэрт "Салют пераможцам", на якім прысутнічала каля 40 тыс. гледачоў. Ён завяршыўся феерверкам.

У цэлым падчас урачыстасцяў у гарадскіх і раённых мерапрыемствах узялі ўдзел звыш 500 тыс. жыхароў і гасцей сталіцы. У абласных цэнтрах і буйных гарадах рэспублікі таксама адбыліся парады войск, шэсці ветэранаў, мітынгі і канцэртныя праграмы.

Ахова грамадскага парадку ў месцах правядзення святочных мерапрыемстваў была забяспечана,- заявілі ў МУС.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Ðàçàì ðàòàâàë³ ... áàëîòà

■ Станіслаў Раманчук

**Далёка за межамі Мёрскага раёна вядомы гідралагічны заказнік і адначасова ўнікальнае верхавое балота "Ельня".**

Тут на плошчы 20 тысяч гектараў захаваліся рэдкія на кантыненце рэшткі пасляледніковай тундры. Каб захаваць гэтыя багацці і вільгаць на балотных масівах, некалькі гадоў назад тут было зроблена шэраг плацін пасярод каналаў. Сёлета на працягу двух выхадных дзён актывістамі грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" і мясцовымі жыхарамі былі праведзены рамонтныя работы. Аматары прыроды з райцэнтра, суседняй Шаркоўшчыны і шэрагу прылеглых вёсак адрамантавалі дзве плаціны ў цэнтральнай частцы заказніка. Пасля снежнай зімы вады тут было вельмі шмат і яе моцныя хвалі падмылі частку каналаў. Валанцёры здолелі таксама падрамантаваць на балоце і частку збудаванняў для захавання вады летам паблізу возера Курганістае. Дзякуючы намаганням людзей існуючыя плаціны былі пашыраны і ўмацаваны. У гэтым месцы не толькі можна ўбачыць карлікавую бярозу і мноства ягад. На балотных прасторах добра пачуваюць сябе вялікія чароды розных птушак, сярод якіх тысячы качак, гусей, жураўлёў, цецерукоў і іншых відаў.

Äîêøûöê³ ðà¸í

# “Çàáëûòà¢ñÿ” ¢ ñóñâåòíàé ïàâóö³íå

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі масава ўвайшлі ў жыццё жыхароў глыбінкі і сярод іх карыстальнікаў, на жаль, аказваюцца нясумленныя людзі.**

Вось і жыхар Докшыц, рабочы аднаго з мясцовых прадпрыемстваў стаў... камп'ютарным злодзеем. Ён навучыўся свабодна карыстацца перавагамі сеткі Інтэрнет ды так, што мог атрымоўваць любую патрэбную для сябе інфармацыю і нават стварыў шкодную праграму, сайт для "скачвання фільмаў". Потым ён стаў капіраваць інфармацыю пра сваіх віртуальных партнёраў і красці іх банкаўскія рэквізіты. Такім чынам, было аблапошана каля 20 чалавек.

Усе яны пасля адключэння антывірусных праграм сталі кліентамі злодзея пасля капіравання сабе фільмаў. Але знайшоўся дасведчаны падлетак з Магілёва, які "раскусіў" гэту камбінацыю і дапамог раскрыць злачынства. На сваім сайце ён проста расказаў пра гэтыя хітрыкі. Беларускі нацыянальны партал закрыў праблемны сайт, а аператыўнікі ў гэтай сферы раскрылі справу. За незаконную дзейнасць докшыцкі злодзей-праграміст атрымаў па рашэнню суда штраф у памеры 10,5 млн. рублёў.

# Àáâÿø÷àíû êîíêóðñ äëÿ áåëàðóñê³õ ³ çàìåæíûõ æóðíàë³ñòà¢ íà òýìó "ÅÑ — Áåëàðóñü 2010"

■Марына Рахлей, *БелаПАН.*

**У сувязі са святкаваннем Дня Еўропы 9 мая прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі абвясціла конкурс для беларускіх і замежных журналістаў па тэме "ЕС — Беларусь 2010".**

На конкурс прымаюцца журналісцкія работы на беларускай ці рускай мове, якія з'явіліся ў СМІ з 1 студзеня па 15 кастрычніка 2010 года ўключна. Апошні тэрмін прыёму работ — 15 кастрычніка 2010 года (па паштовым штампе). Адзін аўтар можа падаць не больш за адну работу ў адну з трох намінацый і не больш за тры работы па трох намінацыях.

Намінацыі конкурсу: лепшы інфармацыйны матэрыял (рэпартаж, інфармацыйнае паведамленне, інтэрв'ю); лепшы аналітычны матэрыял (артыкул дыскусійнага, аналітычнага ці тлумачальнага характару); лепшая фотаработа (фатаграфія, фотарэпартаж).

Работы павінны быць добрай тэхнічнай якасці (арыгінал публікацыі ці копія). Аўдыё- і відэаматэрыялы прымаюцца на CD. Анлайн-публікацыі прадстаўляюцца ў раздрукаваным выглядзе з указаннем прамой інтэрнет-спасылкі. Матэрыялы павінны быць завераны рэдакцыйнай пячаткай і подпісам кіраўніка рэдакцыі.

Работы, прадстаўленыя на конкурс, будуць ацэньвацца зыходзячы з адпаведнасці тэматыцы конкурсу, арыгінальнасці інфармацыі, аўтарскага стылю.

Тры лепшыя работы ў кожнай намінацыі будуць адзначаны прызамі: першае месца — ноўтбук, другое месца —абсталяванне для фота- ці відэаздымкі, трэцяе месца — лічбавы дыктафон.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ñõ³ë³ë³ ãàëîâû ¢ ñìóòêó

■ Кастусь Александровіч

**Па ўсёй краіне ў дні святкавання 65-годдзя Вялікай Перамогі прайшло мноства розных хвалюючых мерапрыемстваў і ўшанаванняў ветэранаў.**

Акрамя традыцыйных мітынгаў-рэквіумаў у розных кутках раёна, ў велічным касцёле св. Антонія Падуанскага ў Паставах адбылося 8 мая спецыяльнае ўрачыста-жалобнае богаслужэнне, прысвечанае Дню Перамогі. Вялікія страты панёс гэты край у гады вайны, калі было спалена больш за 8 тысяч жылых дамоў, забіта болей 4 тысяч мірных жыхароў і спалена 39 вёсак. Сястрой Хатыні стала вёска Альцы, дзе карнікі знішчылі ў агні 73 яе жыхары. На тэрыторыі Паставаўшчыны ў крывапралітных баях загінула больш за тысячу савецкіх салдат і афіцэраў. У ходзе баёў за вызваленне райцэнтра загінулі генерал-маёр Ігнат Кляро і палкоўнік Дзмітрый Харольскі. Яшчэ некалькі тысяч мясцовых жыхароў, воінаў-землякоў не вярнуліся дамоў з дзеючай арміі на вайне. У гонар іх у буйнейшых вёсках краю стаяць помнікі. Падчас памінальнай імшы алтар храма быў застаўлены фатаграфіямі розных памераў памерлых ветэранаў вайны і загінуўшых на фронце бацькоў і дзядоў вернікаў. У гонар іх і за іх светлую памяць шчыра маліліся людзі і прасілі Бога, каб ніколі болей такое не паўтаралася. Калі перад вайной на Пастаўшчыне пражывала амаль 100 тысяч чалавек, то ў пераможным 1945 годзе колькасць насельніцтва раёна скарацілася да 79 тысяч.

Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 13.05.10 | | | | пятн.14.05.10 | | | сб. 15.05.10 | | нядз.16.05.10 | | 17.05.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °C | +11 | +16 | +20 | +17 | +13 | +16 | +21 | +12 | +21 | +13 | +20 | +13 | +20 |
| Ціск, мм | 747 | 746 | 745 | 746 | 745 | 744 | 743 | 744 | 741 | 741 | 738 | 738 | 737 |
| Вільготнасць, % | 98 | 87 | 60 | 74 | 91 | 75 | 55 | 95 | 58 | 98 | 61 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю 3 | Ю-В 4 | Ю-В 6 | Ю-В 3 | Ю-В 4 | В 4 | Ю-В 6 | Ю-В 2 | Ю-В 5 | Ю-В 1 | В 4 | С-В 2 | В 3 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Па ўсёй Беларусі прайшло як ніколі раней шмат урачыстых і маштабных мерапрыемстваў, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі. Эпіцэнтрам урачыстасцей стала беларуская сталіца, дзе адбыліся велічны вайсковы парад, народныя гулянні, а іх удзельнікі ад стэлы на праспекце Пераможцаў да станцыі метро "Няміга" упершыню перанесліся ў пасляваенны Мінск. Беларускім пенсіянерам на перыяд з 1 мая па 30 верасня зноў прадаставілі скідку 50 % на праезд у прыгарадным транспарце.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Буйнейшай у гісторыі краіны стала экалагічная катастрофа ў Мексіканскім заліве, дзе ўзарвалася нафтавая платформа кампаніі BP, загінулі 11 чалавек, вялікія ўцечкі нафты.

**Грэцыя.** Жорсткія меры ўрада краіны па стабілізацыі сітуацыі ў эканоміцы выклікалі новую хвалю забастовак і акцый пратэсту супраць зніжэння зарплат і ўзроўню жыцця.

**Францыя.** На пасяджэнні ў Страсбургу Парламенцкая асамблея Савета Еўропы прыпыніла кантакты з Беларуссю на высокім узроўні з парламентам і з дзяржорганамі.

**ЗША.** Эксперты МВФ назвалі вострыя фінансавыя праблемы ў Грэцыі і Партугаліі, няпростую сітуацыю ў Іспаніі , на рынках ЕС новай фазай сусветнага фінансавага крызісу.

**Бельгія.** Пасля роспуску бельгійскі кароль адправіў у адстаўку ўрад краіны на чале з Івам Летэрма з-за крызісу па даўніх моўных праблемах жыхароў Фландрыі і Валоніі.

**Чэхія.** Прэзідэнт Вацлаў Клаус заявіў, што чэхам не трэба спяшацца трапіць у еўразону, такой думкі прытрымліваўся і загінуўшы ў авіякатастрофе глава Нацбанка Польшчы.

**Расія.** Першы віцэ-прэм'ер урада РФ І. Шувалаў заявіў, што Расія спачатку ўступіць самастойна ў СГА і толькі затым будзе ствараць агульны мытны рынак з РБ і Казахстанам.

**Францыя.** Вядомая кампанія Danon заявіла аб гатоўнасці ўкласці 20 млн. EUR у стварэнне СП па глыбокай перапрацоўцы малака ў райцэнтры Кіраўск Магілёўскай вобласці.

**Венгрыя.** Правячы на працягу 8 гадоў урад сацыялістаў з-за росту беспрацоўя і даўгоў краіны прайграў на парламенцкіх выбарах правацэнтрысцкай партыі "Фідэш".

**ЗША.** На 98-м годзе пайшоў з жыцця У. Харрыс, апошні жывы пракурор на Нюрнбергскім працэсе, які дапрошваў маршала Г. Герынга і абвінавачваў ката РСХА Э. Кальтэнбрунера.

**Украіна.** Апазіцыя заявіла аб намерах правесці імпічмент прэзідэнту В. Януковічу за яганыя саступкі Расіі па дагавору па Севастопалю ў важнейшым геапалітычным пытанні.

**Кітай.** Каардынацыйнае бюро буйнейшай сусветнай выставы "Экспа-2010" узгадніла дату правядзення нацыянальнага дня Беларусі – 11 кастрычніка за 20 дзён да яе закрыцця.

**Швецыя.** Прэтэндэнтка на каралеўскі трон, прынцэса Мадлен разарвала адносіны са сваім жаніхом 31-гадовым адвакатам, калі той здрадзіў ёй з юнай нарвежскай гандбалісткай.

**Расія.** Віцэ-спікер Дзярждумы РФ У. Жырыноўскі заявіў, што нічога не атрымоўваецца ў А. Лукашэнкі, выбары прайграе без падтрымкі Масквы, яму патрэбна сыходзіць.

**Куба.** Кіраўнік каталіцкага касцёла краіны, кардынал Х. Артэга параўнаў правячы рэжым са сталінскім, кубінцы незадаволены сваім жыццём і прагнуць перамен, лепшай долі.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Найбольш спрыяльнай датай правядзення прэзідэнцкіх выбараў ЦВК Беларусі лічыць 6 лютага 2011 года, краіну чакае найцяжэйшая за ўсе перадвыбарная кампанія.

**Мазыр.** Да канца мая пасля ацэнкі вынікаў эксперыментальнай партыі будзе прынята рашэнне аб тэрмінах наступных паставак венесуэльскай нафты ў Беларусь.

**Магілёў.** На базе былой сярэдняй школы міліцыі створаць 54-ю па ліку ў краіне ВНУ – Вышэйшы каледж Міністэрства ўнутраных спраў, сёлета прыбавіцца 95 тыс. студэнтаў.

**Бабруйск.** Паблізу горада намечана пабудаваць 5-ты па ліку цукровы завод у Беларусі магутнасцю 120-130 тыс. тон у сувязі з ростам вытворчасці цукровых буракоў у краіне.

**Мінск.** Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці запатрабаваў ад дырэкцыі "Славянскага базара ў Віцебску" выплаціць яшчэ 200 млн. рублёў аўтарскага ганарару.

**Жлобін.** Мясцовая швейная фабрыка ўзначаліла спіс 7 прадпрыемстваў і ўстаноў канцэрна "Беллегпрам", якія будуць ліквідаваны з-за хранічнай неплацежаздольнасці і даўгоў.

**Шклоў.** На папяровай фабрыцы "Спартак" усталявалі з дапамогай спецыялістаў з Тайваня новую лінію па вытворчасці гофракардону магутнасцю да 40 млн. кубічных метраў у год.

**Мінск.** Цягач сталічнага МАЗа 5440А9 стаў пераможцам Міжнароднай спецыялізаванай выставы "Камерцыйны аўтатранспарт 2010" у Маскве ў намінацыі "Грузавік года".

**Баранавічы.** Упершыню ў гісторыі горада быў зарэгістраваны арыгінальны шлюб у новым Лядовым палацы, муж з жонкай першы свой вальс станцавалі на каньках на лёдзе.

**Мінск.** Дзяржаўны мытны камітэт Беларусі лічыць неабходным захаваць для беларусаў цяперашнія пошліны на ўвоз легкавых аўтамабіляў у рамках Мытнага саюза трох краін.

**Лагойск.** Ля райцэнтра прайшоў фестываль "парад фейерверкаў" і ваенна-гістарычнае шоу трох эпох – ад бітвы рыцараў сярэдневечча да рэканструкцыі падзей апошняй вайны.

**Магілёў.** Болей 3 тысяч чалавек з забруджаных радыяцыяй раёнаў штогод цяпер будуць праходзіць рэабілітацыю пасля аперацый ў новай спецыялізаванай бальніцы ля горада.

**Мінск.** Шостым удзельнікам беларуская гурта "3+2" на конкурсе песні "Еўрабачання" стаў шведскі піяніст і кампазітар Роберт Уэлс, іх песня "Матылькі" прагучыць 25 мая.

**Навагрудак.** Цэлую алею маладых ліп пасадзілі валанцёры ў парку пасёлка Любча ля аднаўляемага старажытнага замка, які можа пераўтварыцца як роўны замку ў Міры.

**Мінск.** Да канца мая ў касцёле св. Сымона і Алены вернікі кожную суботу і сераду могуць пакланіцца і ўшанаваць копію прывезенай з Італіі славутай Турынскай плашчаніцы.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ àáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Толькі ў 1-м квартале года, як адзначалася на пасяджэнні аблвыканкама, колькасць занятых у эканоміцы вобласці знізілася больш чым на 2 тысячы чалавек.

**Наваполацк.** Найбольш у вобласці амаль напалову зменшыліся сёлета аб'ёмы вытворчасці на ААТ "Нафтан" з-за новых умоў паставак расійскай нафты на завод.

**Віцебск.** Па выніках працы ў 2009 годзе ніводзін з рэгіёнаў Віцебскай вобласці сярод гарадоў і сельскіх раёнаў не выканаў умоў для занясення на абласную Дошку гонару.

**Орша.** З пачатку года складскія запасы льнокамбіната скараціліся нязначна і складалі ў красавіку амаль 62 млрд. рублёў, на яго мадэрнізацыю пойдзе ад 300 да 500 млрд. рублёў.

**Бешанковічы.** Да радасці жыхароў райцэнтра праз раку Заходняя Дзвіна адкрыўся 200-метровы пантонны наплаўны мост, узведзены вайскоўцамі, ён стане працаваць да зімы.

**Віцебск.** Болей 2 млрд. рублёў выдзелена з абласнога бюджэта на надбаўкі для павышэння зарплат больш чым 1500 работнікам бібліятэчнай сістэмы Віцебшчыны.

**Докшыцы.** У цяжкім стане трапілі ў райбальніцу пасля сутыкнення на сваёй іншамарцы з праязжаўшым ЗІЛам двое замежнікаў, грамадзянін Расіі і грамадзянін Украіны.

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец жорстка запатрабаваў паўсюдна ў раёнах і ў працоўных калектывах забяспечыць да канца года зарплату ў сярэднім 500 долараў.

**Дубdroўна.** Пры высокай яўцы (95 %) на прайшоўшых выбарах раён стаў адзіным у вобласці, дзе не быў выбраны 1 дэпутат райсавета і 1 – сельсавета, выбары паўтораць.

**Віцебск.** Пры будаўніцтве зернетака ў вёсцы Янавічы трагічна загінуў 53-гадовы рабочы, якога на будоўлі прыдушыла ўпаўшая загараджальная пліта з бетонных блокаў.

**Паставы.** Услед за Глыбокім у райцэнтры на новым рынку "Гарызонт" на працягу 6 дзён з поспехам прайшоў "Мядовы фестываль", арганізаваны сталічнай фірмай "Высокая гара".

**Бешанковічы.** Па выніках конкурсу "Пазнаёмся з Венесуэлай" настаўніца Коранеўскай СШ Ірына Сымановіч завявала галоўны прыз – паездку ў Лацінскую Амерыку.

**Віцебск.** Ад 25 да 85 тыс. рублёў будзе кошт білетаў на канцэрты XIX Міжнароднага фестываля мастацтваў "Славянскі базар", летась там залы запаўняліся ад 18 да 60 %.

**Наваполацк.** Федэрацыя футбола Беларусі дапусціла гарадскі стадыён "Атлант" пасля ўхілення недахопаў да правядзення матчаў нацыянальнага першынства вышэйшай лігі.

**Віцебск.** Адразу 3 помнікі княгіні Вольгі ля амфітэатра, князю Альгерду на кані паблізу храма і Аляксандру Неўскаму ўстановяць у абласным цэнтры да Дня горада 25 чэрвеня.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**21288** столькі чалавек, па дадзеных Цэнтрвыбаркама, сталі ў Беларусі дэпутатамі мясцовых Саветаў пасля завяршэння сёлетніх выбараў на рэгіянальным узроўні. Нават пасля адмены парога яўкі для прызнання выбараў адбыўшыміся актыўнасць насельніцтва (прагаласавала 79,1 % выбаршчыкаў) на выбарчых участках здзіўляе цывілізаваны свет. Толькі ў 15 акругах безальтэрнатыўныя кандыдаты, з якіх адзін раптоўна памёр, не набралі патрэбнай падтрымкі і там неабходна праз некалькі месяцаў праводзіць выбары паўторна.

Таксама за межамі краіны многіх здзіўляе, наколькі шмат ( 29,3 % выбаршчыкаў) беларусаў прымаюць удзел у галасаванні датэрмінова. Гадамі адпрацоўваецца і шліфуецца такі механізм "стымуляцыі" выбараў на месцы з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу. У Віцебскай вобласці, напрыклад, ставілі задачу быць першымі па яўцы ў Беларусі і гэтага дабіліся, перакрыўшы на 0,5 % працэнт актыўнасці на папярэдніх такіх выбарах у пачатку студзеня 2007 года – 90,9 працэнта. У такіх раёнах, як Рассонскі і Шаркоўшчынскі, яўка стала, як за сталінскім часам , амаль астранамічнай пад 100 %.

Толькі беларуская сталіца падкачала, тут на ўчастку для галасавання прыйшло сама менеш – 58,7 % мінчан. На невысокую канкурэнцыю на мясцовых выбарах у Беларусі акцэнтавалі ўвагу на пасяджэнні ПАСЕ нават вядомы расійскі дэпутат Дзярждумы, палітолаг Сяргей Маркаў і прагаласаваў потым за прыняцце рэзалюцыі па "беларускаму пытанню". Афіцыйныя айчынныя СМІ пакрыўдзіліся за гэта на расійскага палітыка і назвалі яго "віртуозам кан'юнктуры". Але ўсе, назіраўшыя за гэтай кампаніяй, лічаць яе рэпетыцыяй перад значна больш важнай прэзідэнцкай.

Можна называць прайшоўшыя выбары рэальнай праявай прадстаўнічай дэмакратыі па-беларуску, але нейк дзіўна, калі ў глыбінцы на некаторых участках больш паловы выбаршчыкаў галасуюць датэрмінова альбо на даму. У выніку амаль палова абраных дэпутатаў мясцовага ўзроўню – жанчыны, каля 2 тысяч не дасягнулі яшчэ ўзросту 30 гадоў, а вось прадстаўнікоў палітычных партый (301 чалавек) кот наплакаў – усяго 1,4 %. Здзіўляе і тое, што толькі 23 % кандыдатаў у дэпутаты выраблялі друкаваныя агітацыйныя матэрыялы.

Выступілі і далёка не ўсе з іх па радыё, а на мясцовыя тэлеканалы ўдзельнікаў выбараў ніхто не зваў. Што магчыма было б цікава, але дэбатаў перадвыбарных і нават публікацыі праграм кандыдатаў у газетах заканадаўства не прадугледжвае. Па-ранейшаму за падлічваннем выбарчых бюлетэняў на сталахназіральнікі назіраюць са значнай адлегласці. Ніяк у нас не могуць вырабіць празрыстых урн для галасавання, хоць яны ўжо абавязковы атрыбут выбараў у беднейшых краінах Афрыкі, ваюючых Афганістане і Іраку.

У выніку зноў усміхаецца на экранах старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, бо чарговыя выбары пад яе кіраўніцтвам прайшлі паспяхова, без сучка і без задзірынкі. Цэнтрвыбаркам не ўгледзіў сур'ёзных парушэнняў выбарчага заканадаўства, якія б маглі паўплываць на выніку галасавання, Не лічыць жа сур'ёзным паступіўшых 18 пратэстаў на механізм падліку галасоў. Замежныя дыпламаты, якія пабывалі на выбарах, зрабілі крытычныя заўвагі, што толькі 3 апазіцыйныя кандыдаты ад левых партый сталі дэпутатамі, хоць іх вылучалася 128. Ад партый перавага ўхілу вылучаліся 110 чалавек і ўсе яны пацярпелі фіяска. Найбольшае прадстаўніцтва – 262 мандаты дэпутатаў зноў атрымала лаяльная ўладам Камуністычная партыя Беларусі.

Між тым, можна адзначыць і яшчэ адзін аспект завяршыўшыхся выбараў, дзесьці 15 і нават месцамі 20 % выбаршчыкаў прагаласавалі супраць усіх і нават адзінага кандыдата ў дэпутаты, большасць з якіх з'яўляліся начальнікамі розных рангаў. Еўрасаюз у сваёй заяве выклікаў заклапочанасць рознымі аспектамі датэрмінова галасавання і заклікаў Беларусь прадоўжыць дыялог з АБСЕ для паляпшэння выбарчых працэдур. Відавочна, што беларусам яшчэ далёка да еўрапейскай палітычнай культуры і правядзення свабодных і празрыстых выбараў, як і да рэальнага мясцовага самакіравання.

# Свята ў

Без сумневу – Глыбокае яшчэ не раз адсвяткуе юбілеі Вялікай Перамогі. Будуць і 70-ыя ўгодкі, і 80-ыя, і 100-ыя... Вось толькі, на жаль, няўмольная хада часу штогод пакідае ўсё менш і менш наўпроставых сведак тых векапомных гадоў.

Хто сёння згадае пра Айчынную вайну 1812 года? Ніхто! Прайшло 198 гадоў... Ну, хіба што, школьныя падручнікі гісторыі і экскурсаводы, якія не прамінуць сказаць, што ў будынку кармеліцкага кляштара начаваў сам Напалеон Банапарт.

Таму, калі ў шэрагах дэманстрантаў на дзень 9 траўня ўсё яшчэ бачыш ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, усведамляеш усю важкасць і значнасць падзеі. Ёсць жывыя сведкі Вялікай Перамогі. Наша ім пашана і хвала за мірнае неба! Яны ўхілілі катастрофу планетарнага маштабу.

Глыбокае шырока адзначыла 65-гадовы юбілей Вялікай Перамогі. Паспрыяў гэтаму і цёплы майскі дзень. Мерапрыемствы праводзіліся не толькі на двух плошчах – Цэнтральнай і 17 Верасня – але і ў мікрараёнах: у Беразвеччы, МКК і па вул. Міра.

Мінуў яшчэ адзін мірны год, 65-ты па ліку... Дзякуй Вам, ветэраны!



**Не старэюць душой ветэраны!**
*Фота Ул. Скрабатуна*



**Ветэраны Вялікай Айчыннай...**
*Фота Ул. Скрабатуна*



**Ускладанне вянкоў у Парку Перамогі.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



На парадзе – глыбоцкія афіцэры-вайскоўцы.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

*Светлай памяці франтавіка – Міхаіла Іванавіча Даргеля*

**М. Даргель**

## Франтавік

Быў годны, просты бацька чалавек,
Богу і краю быў адданы,
У працы жыў увесь свой век,
Спачыў, на жаль, зарана.
Більдзюскім* родным кутам даражыў,
Любіў зямельку тую камяністую,
Каменні складваў на мяжы,
Вайну, разруху выстаяў.
Страшны і небяспечны то быў час,
Навала край наш раздзірала.
Вёску абходзіў не раз абраз,
Каб ласка Бога ратавала.
На фронт з вяскоўцамі пайшоў,
Фашыстаў біў за смерць і гора.
З вайны той з ранаю прыйшоў,
А дома нэндза, слёзы, голад.
Усё ізноў стаў аднаўляць:
Шкліць вокны, ладзіць стрэхі,
Каня і кароўку зажываць,
І лапіць гаспадарцы той прарэхі.
А тут новы паварот у жыцці:
І зноўку слёзы і малітва,
У калгас, як хочаш – трэба ісці.
Загад – падобны брытве.
Здароўе там сваё згубіў
Мой працавіты бацька шчыры,
На фронце немец на забіў,
Забіў кастрычнік, холад, сырасць.

* Більдзюгі – вёска ў Шаркоўшчынскім раёне.

## Падзяка

Шчыра дзякую грамадзянам Падсвільскай выбарчай акругі № 8 і Пасялковай выбарчай акругі №29 за падтрымку ў вылучэнні маёй кандыдатуры ў абласны і раённы саветы дэпутатаў. Нягледзячы на тое, што дэпутацкага статуса Ваш кандыдат не атрымаў – Вы можаце спадзявацца на маю падтрымку. Я памятаю ўсе Вашы вялікія і маленькія наказы: пра дарогі, пра ваду ў в. Пліса, масток і пытанне наконт агароду ў в. Мнюта, сустрэчу з інвалідам-пенсіянерам у в. Бараны і іншыя. Запэўніваю Вас, што зраблю ўсё магчымае па станоўчаму вырашэнню ўсіх Вашых запытаў. Трымайцеся разам Праўды і надалей! Жыве Беларусь! Жыве з Богам!

Выказваю ўдзячнасць чальцам выбарчых участкаў і тэрытарыяльных камісій, асабліва іх старшыням, за іх складаную і карпатлівую працу на карысць і росквіт народа. Няхай Усявышні аддзячыць за іх намаганні!

***З павагай Яўген Самсонаў.***

# Глыбокім



На парадзе глыбоцкія выратавальнікі.
*Фота Ул. Скрабатуна*



Вайсковая ўніформа ўпрыгожвае не толькі хлопцаў, але і дзяўчат!
*Фота Ул. Скрабатуна*





Народныя ўмельцы і іх вырабы з саломы.
*Фота Ул. Скрабатуна*



Франтавыя сто грам.



Самадзейны мастак Дзмітрый Літвінскі заўсёды збірае вакол сябе шмат цікаўных.
*Фота Ул. Скрабатун*

# У Лучайскай парафіі – вялікае свята!

**15 траўня ў лучайскай парафіі святога Тадэвуша (Пастаўскі раён) – вялікая ўрачыстасць! 20-годдзе вяртання касцёла вернікам і 255-ыя ўгодкі ўтварэння каталіцкай парафіі. У гэты ж дзень адбудзецця парафіяльны фэст у гонар святога Андрэя Баболі. Пачатак святой імшы а 16-ай гадзіне.**

Пасля святой імшы – канцэртная праграма з удзелам парафіяльнага хору з Шаркоўшчынскай парафіі, цырка «Мара» з Шаркоўшчыны, моладзевага гурта з Шуміленскай і Віцебскай парафіяў. А таксама розныя гульні і забавы.

Шчыра запрашаю ўсіх, хто меў дачыненне да вяртання і аднаўлення касцёла ў Лучаі, а таксама ўсіх жадаючых прыехаць і прыняць удзел у гэтай значнай для парафіі падзеі.

*Мікалай Ліпскі, ксёндз пробашч касцёла св. Тадэвуша ў Лучаі.*


**Біскуп Уладзіслаў Блін (злева) і ксёндз Мікалай Ліпскі на адкрыцці помніка Папу Рымскаму Бенедыкту XVI у Лучаі.**
*Фота Ул. Скрабатуна*

# Запрашаем на Дударскі фэст
## (фестываль валынкі)



**19 мая.**

**Танцавальная крытая пляцоўка парка Чалюскінцаў.**

18.00 – 22.00

Гурты: СТАРЫ ОЛЬСА, ZNICH, LITVINTROLL, Testamentum terrae, КЕЙЛІ КЁЛ, РАСАЛІЯ, UNIA і шмат іншых.

**Кошт квіткоў:**

20 000 папярэдне

25 000 у дзень канцэрту

Хто набудзе квіток папярэдне атрымае плакат гурта Стары Ольса ў падарунак!

**Кропкі продажу:**

Пераходы Я.Коласа, Кастрычніцкая, Гум, ГЦ Купалаўскі, 19 кропка, ГЦ Рыга, 18 кропка і інш.

Даведкі і замова квіткоў: 649-08-88.

# Памерла Вера Рамук

**У Чыкага 5 траўня памерла грамадская дзеячка Вера Рамук. Яна на два месяцы перажыла свайго мужа Вітаўта Рамука, якога не стала 9 сакавіка.**


**Вера і Вітаўт Рамукі**

Вера Рамук нарадзілася 6 верасня 1931 г. у Сабарах (сёння Докшыцкі раён Віцебскай вобласці, а тады – усходнія крэсы) ва ўніяцкай сям'і Стэфана Жызнеўскага і Еўдакіі Гапанёнак. Бацька быў краўцом, маці – хатняй гаспадыняй. Сям'я мела 12 гектараў зямлі, чатыры каровы, два кані, дзесяць авечак.

Вучылася ў польскай, затым – пасля далучэння Заходняй Беларусі – савецкай школе. Са школьных гадоў запомніла наступнае: «Савет, савет, дай канфет» – мусілі казаць дзеці – і цукеркі з'яўляліся (настаўніца падкідвала). Потым яна загадвала казаць: «Бог, дай пірог». Колькі дзеці ні казалі, ніякага пірага не з'яўлялася. «От, – рэзюмавала настаўніца, – значыць, ніякага Бога няма».

Жызнеўскія былі сярод тых, каго «планавалі» выслаць у Сібір.

Высылку прызначылі на канец чэрвеня.

Потым была нямецкая акупацыя, якая ў тых мясцінах была дапоўнена небяспекай пацярпець ад палка Гіль-Радзівонава ці літоўскіх карнікаў.

У 1944 г. Жызнеўскія ўцяклі на Захад. У 1949 г. пераехалі ў ЗША, пасля нядоўгага побыту ў Нью-Ёрку перабраліся ў штат Ілінойс, у горад Пеорыя.

Тут Вера Жызнеўская скончыла ўніверсітэт і пазнаёмілася з Вітаўтам Рамуком, у 1956 г. яны пажаніліся. У 1963-м перабраліся ў Чыкага. Грамадскае жыццё тут у 1960-я кіпела. Некалькі арганізацый, ажно дзве беларускія царквы – праваслаўная і ўніяцкая парафія Хрыста Збаўцы.

Актывістамі і рухавікамі гэтай парафіі былі і Рамукі.

У 1984 г. Вера Рамук як прадстаўнічка беларускай дэлегацыі была запрошана ў Вашынгтон на Тыдзень паняволеных народаў. У Белым доме і пазнаёмілася з прэзідэнтам Рэйганам і нават, набраўшыся адвагі, папрасіла разам сфатаграфавацца.

Да апошняга часу Вера Рамук жыва цікавілася падзеямі ў Беларусі, была падпісчыцай «Нашай Нівы». Але жаданне жыць падарвала смерць мужа 9 сакавіка 2010 года. Шмат перажыла ў сваім жыцці, а гэта перажыць не змагла.

Вера Рамук адмовілася прымаць лекі.



*Іну Сяргееўну Сядову*

**Віншуем з днём нараджэння!**

С днем рождения
Вас сегодня поздравляя,
Мы пожелать хотим Вам от души,
Чтоб много лет
Еще прожить не уставая,
Чтоб эти годы были хороши.
Желаем множества удач,
Желаем молодости вечной,
Пусть все исполнятся мечты
И счастье будет бесконечным!



*Калектыў "ВГ"*

*Іну Сяргееўну Сядову*

**Віншуем з днём нараджэння!**

День рожденья - прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза.



*Муж, дзеці, унучка Настасся*

# «Тут быў Вася»

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Беларусь часта завуць сінявокай і гэта не спраста, бо па тэрыторыі рэспублікі працякае амаль 21 тысяча рэк агульнай працягласцю 91 тысяча км., больш 10 тысяч азёр, а іх агульная плошча складае каля 2 тысяч квадратных км. Самая вялікая па працягласці рака Днепр 2145 км., а возера Нарач – 79,62 км², самае глыбокае возера рэспублікі – Доўгае (заказнік рэспубліканскага значэння і мае статут асоба ахоўваемай прыроднай тэрыторыі) знаходзіцца на тэрыторыі Глыбоцкага раёна, яго глыбіня складае 53,7 метры.

Прырода Беларусі вельмі разнастайная, у лясах рэспублікі водзіцца зубр, мядзведзь, рысь, якія занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі, на вялікі жаль, зніклі такія жывёлы як тур, лань, хахуля, расамаха, лясны кот, але шмат лася, кабана, казулі, ваўка і яшчэ шэраг жывёл, усяго 457 відаў, з іх 305 відаў птушак, у рэках і азёрах водзіцца 59 відаў рыб, 45 з якіх адносяцца да абарыгенных відаў. Нешматлікія ведаюць, што ў рэках і азёрах Беларусі водзяцца такія віды рыб, як ласось атлантычны, стронга ручаёвая, харыус, кумжа, рапушка еўрапейская, сцерлядзь і шматлікія іншыя віды, занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Нездарма пералічаныя асобныя віды жывёл і рыб, занесеных у Чырвоную кнігу, бо іх жыццё залежыць у першую чаргу ад чалавека, ад нашага стаўлення да прыроды. Не трэба далёка хадзіць, каб пераканацца, мы ўсё яшчэ вельмі далёкія ад разумення «ахоўваць і берагчы прыроду». Паглядзіце, што робіцца ў нашых лясах, на азёрах, рэках, палях. Смецце, побытавыя адыходы, бутэлькі, усе сляды жыццядзейнасці чалавека выкінуты ў месцах адпачынку, а на зямлі як быццам бы напісана «Тут быў Вася». Рыхтуючыся да імпрэзы Дня Перамогі, работнікі УП Глыбоцкая ЖКГ прыбралі смецце каля возера Кагальнае, але што мы ўбачылі пасля свята. Увесь бераг закіданы пустымі бутэлькамі, розным смеццем. Жывём адным днём, абураючыся і заклікаючы да жалю, калі прыродаахоўныя службы выпісваюць штраф. Так, супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за выкід смецця на бераг возера затрыманы 2 жыхары Гомельскай вобласці, грамадзяне Саламахін і Пракапенка, якія прыехалі да нас на будоўлю, толькі дапамогі ад такіх гора-будаўнікоў мала, а шкоды шмат. Паводле арт. 15.30 Ко АП РБ штраф за выкід смецця складае да 20 базавых велічынь.

Вельмі шмат пытанняў у міжрайінспекцыю паступае ад рыбакоў з нагоды платнай рыбалкі на сажалках у рыбгасе «Навінкі». Лоўлю рыбы на платных сажалках можна ажыццяўляць з 5 гадзін раніцы да 20 гадзін 30 хв., толькі па аплачанай пуцёўцы, норма вылоўлівання 4 кг., за кожны лішні вылаўлены кг. карпа неабходна даплочваць асобна, лоўля рыбы на сажалках у начны час забаронена і разглядаецца як дробны крадзеж сажалкавай рыбы.

Так, супрацоўнікамі міжрайінспекцыі каля 3 гадзін ночы 5 траўня на платнай сажалцы рыбгаса затрыманы 2 жыхары г. Віцебска, якія незаконна здабылі па 2 кг. карпа, квітанцыі на аплату адсутнічалі, матэрыялы накіраваны ў суд Пастаўскага раёна.

Прыведзеныя прыклады павінны паслужыць урокам астатнім грамадзянам, якія не паважаюць закон, што губяць прыроду і жывёльны свет. Супрацоўнікі дзяржаўнай інспекцыі заўсёды будуць самым жорсткім чынам перарываць усе факты браканьерства і парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.

Хацелася б выказаць падзяку неабыякавым грамадзянам, сапраўдным рыбакам-аматарам, якія аказваюць актыўную дапамогу дзяржінспекцыі ў ахове нашых рэк і азёр і пажадаць ім у надыходзячым годзе толькі добрых уловаў і рыбалкі.

Грамадзян неабыякавых, любячых, якія шануюць нашу прыроду просім паведамляць пра ўсе парушэнні на тэлефоны гарачай лініі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету :

8-02156 - 2-86-70 кругласутачна, мабільны 897-23-02, ці 890-55-28

Усе паведамленні будуць аператыўна праверaны і да парушальнікаў прыняты меры адміністрацыйнай ці крымінальнай адказнасці.

Разам мы зможам захаваць першародную беларускую прыроду!

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

17 – 23 траўня 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 17 траўня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.05, 19.30, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ».
**10.50** «OFF STAGE LIFE».
**11.05** Цикл «Моя правда» (Украина). Фильм «Борис Моисеев. Птичка».
**12.10** Мелодрама **«Монро»** (Россия).
**14.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь».
**15.15, 19.40** Новости региона.
**15.25** Детектив **«Близкие люди»**.
**16.40** «Арена».
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. . В перерыве: «Зона Х».
**19.55** «КЕНО».
**20.00** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** Сериал **«Отчаянные домохозяйки-4»** (США).
**23.05** Сериал **«Герои-3»** .
**00.00** «Зона Х».
**00.05** День спорта.





**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** ОНТ представляет: «Дыхание планеты».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Теория невероятности «Семейные проклятия».
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять.Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15** Премьера. **«Иван Подушкин. Джентльмен сыска».** Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Обручальное кольцо».** Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папа на все руки»**.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00** **«Остаться в живых».** Многосерийный фильм.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.55** «Авиаслалом. Мировая серия».
**00.50** **«Женаты... с детьми».** Многосерийный фильм.
**01.15** Наши новости.
**01.30-01.40** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Сериал **«Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**.
**10.45** Фантастика «Остров потерянных душ».
**12.35** «Пра мастацтва».
**13.05** Школа ремонта.
**14.00** Детективный сериал **«Родина ждет»**.
**15.00** Д/ф «Выпуск накануне войны».
**15.20** Бухта капитанов.
**16.00** Телебарометр.
**16.20** Час суда.
**17.25** Простые упражнения.
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**.
**19.05** Сериал **«Универ»** .
**19.40** Белорусское времечко.
**20.50** Калыханка.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира.
**23.30** Триллер **«Запах ночи»** .





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Ангел-хранитель».** Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Мачеха».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Добро пожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Мачеха».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«ОХОТА НА ПИРАНЬЮ».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ПАРФЮМЕР: ИСТОРИЯ ОДНОГО**

БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў.
**17:05** **«Ранча Піковая Сямёрка»,** серыял.
**17:35** Госць «Белсату»
**17:50** **«Арол: крымінальная сага».**
**18:50** «Жылі дзядуля і бабуля».
**19:20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19:30** «Аблавушак», мультсерыял.
**19:40** Еўропа сёння.
**20:10** ПраСвет.
**20:25** Блізкая гісторыя.
**21:00** Аб'ектыў.
**21:25** Рэмарка.
**21:40** Прэс-экспрэс.
**21:55** Моўнік.
**22:00** Фільматэка майстроў: «Мілу ў траўні».
**23:50** Аб'ектыў.

## АЎТОРАК, 18 траўня

### ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.05, 19.30, 23.55** Новости.
**06.05** День спорта.
**06.10, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.30, 11.50** Деловая жизнь.
**08.35** Арена.
**09.05** Д/ф «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Звезды под скальпелем».
**09.50** Драма **«Кормилица»** (Италия).
**11.40** Специальный репортаж АТН «Дети или гении».
**12.10** Комедия **«Возвращение блудного мужа»** (Россия).
**14.05** Ток-шоу «Ответный ход».
**15.15, 19.45** Новости региона.
**15.30** Детектив **«Запасной инстинкт»**.
**16.40** Сфера интересов.
**17.10** Хоккей. Чемпионат мира. В перерыве: «Зона Х».
**19.55** «КЕНО».
**20.00** Детектив **«Право на помилование»**.
**21.00** Панорама.
**21.55** Сериал **«Отчаянные домохозяйки-4»** (США).
**23.00** Д/ф «Моя правда» (Украина). Фильм «Шура. Слезы шута».
**00.00** «Зона Х».
**00.05** День спорта.
**00.15** Хоккей. Чемпионат мира. Матч 2-го этапа.

### АНТ

**06.00,** 09.00 Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** Жди меня.
**10.00** ОНТ представляет: «Города-герои. Смоленск».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** ОНТ представляет: «Один против всех».
**12.00** «Малахов +».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15** Премьера. **«Иван Подушкин. Джентльмен сыска».**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Обручальное кольцо».** Многосерийный фильм.
**17.05** «Пусть говорят» с Андреем Малаховым.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Комедия **«Папа на все руки».**
**18.55** **«Слово женщине».** Многосерийный фильм.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Брак по завещанию».** Многосерийный фильм.
**22.10** Премьера. **«Правда скрывает ложь».** Многосерийный фильм.
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30** «Обратный отсчет». «ЮНРРА. Неизвестная миссия».
**00.05** **«Женаты... с детьми».** Многосерийный фильм.
**00.50** Наши новости.
**01.05-01.15** Новости спорта.

### ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Сериал **«Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**.
**10.40** Документально-исторический сериал «Граница. Полоцкое княжество».
**11.15** «Страсти по культуре».
**11.55** Д/ф «Солнечный Май».
**12.30** Комедия **«Венера и Аполлон»** (Франция).
**13.20** Детектив **«Родина ждет»** (Россия).
**14.20** Мультфильмы.
**14.50** Своя компания.
**15.25** Сериал **«День гнева»**.
**16.20** Час суда.
**17.25** Простые упражнения.
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь».**
**19.05** Сериал **«Универ»** .
**19.40** Белорусское времечко.
**20.50** Калыханка.
**21.10** Хоккей. Чемпионат мира.
**23.30** Спорт-кадр.

### ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ" (СТВ REN TV)

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«ОХОТА НА ПИРАНЬЮ».**
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Ангел-хранитель».** Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Мачеха».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Громкое дело».
**14.40** **«Своя команда».** Сериал.
**15.40** «Военная тайна».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Столичный футбол».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Мачеха».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** **«Солдаты. Дембель неизбежен!»** Сериал.
**21.30** **«Отблески».** Сериал.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Репортер СТВ».
**23.25** «Автопанорама».
**23.45** «Кино»: **«УРОК ВЫЖИВАНИЯ».**

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў.
**17:05** **«Ранча Піковая Сямёрка»,** серыял.
**17:35** МакраФон: «Новая традыцыя», канцэрт гуртоў «Таўгая» і «Яр»
**18:15** Басанож па свеце.
**18:40** Тыдзень з радыё «Свабода».
**19:15** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19:25** «Аблавушак», мультсерыял
**19:40** Праект «Будучыня».
**20:10** Акно ў Еўропу.
**20:40** Беларусы ў Польшчы
**21:00** Аб'ектыў.
**21:25** Асабісты капітал .
**21:40** Моўнік.
**21:45** **«Каханне, здрада, жарсць»,** серыял.
**22:30** Форум (ток-шоу): «Святая лічба».
**23:10** Аб'ектыў.







## СЕРАДА, 19 траўня

### ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00,.**
**23.55** Новости.
**06.05** День спорта.
**06.10, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 11.50** Деловая жизнь.
**08.35** Сфера интересов.
**09.05** Детектив **«Право на помилование»**.
**09.55** Спортивная драма «Гол в Спасские ворота» (СССР).
**11.25** Відэафільм АТН « Паўночны гарадок» цыкла «Зямля беларуская».
**11.35** «OFF STAGE LIFE».
**12.10** Мелодрама **«Свой-чужой»** (Россия).
**14.05** Здоровье.
**14.30** Культурные люди.
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Альманах путешествий.
**15.50** Сериал **«Запасной инстинкт»** (Россия).
**16.50** Сериал **«Общая терапия»** (Россия).
**17.50** Мелодрама **«Не родись красивой»**.
**18.50,** 00.50 «Зона Х».
**19.25** «Спортлото 5 из 36».
**19.30** «КЕНО».
**19.35** «Земельный вопрос».
**20.00** Детектив **«Право на помилование»**.
**21.00** Панорама.
**21.55** Сериал **«Отчаянные домохозяйки-4»** (США).
**23.00** Триллер **«Опасный Бангкок»** (США).
**00.55** День спорта.

### АНТ

**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.05** **«Слово женщине».** Многосерийный фильм.
**10.00** **«Правда скрывает ложь».** Многосерийный фильм.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Детективы».
**11.50** «Ералаш».
**12.00** «Малахов +».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15** Премьера. **«Иван Подушкин. Джентльмен сыска».** Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Обручальное кольцо».** Многосерийный фильм.
**17.05** «Пусть говорят» с Андреем Малаховым.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папа на все руки».**
**18.55** **«Слово женщине».** Многосерийный фильм.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Брак по завещанию».**
**22.10** Премьера. **«Правда скрывает ложь».**
**23.10** Наши новости.
**23.25** Новости спорта.
**23.30** ОНТ представляет: «Документальный детектив».
**00.05** **«Женаты... с детьми».** Многосерийный фильм.
**00.50** Наши новости.
**01.05**-01.15 Новости спорта.

### ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Сериал **«Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»** (Россия).
**10.45** Документально-исторический сериал «Граница. Великое княжество Литовское» (Беларусь).
**11.15** Репортер «Белорусского времечка».
**12.00** Спорт-кадр.
**12.35** Комедия **«Венера и Аполлон»**.
**13.25** «Приключения Буратино».
**14.30** «Лабірынты: драўляныя храмы Прыкарпацця».
**15.00** Врачебные тайны.
**15.25** Сериал **«День гнева»**.
**16.20** Час суда.
**17.25** Простые упражнения.
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**.
**19.05** Сериал **«Универ».**
**19.45** Белорусское времечко.
**20.50** Калыханка.
**21.10** Драма **«Жизнь после него».**
**22.55** Хоккей. Формула игры.
**23.25** Гандбол. Чемпионат Беларуси.

### ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ" (СТВ REN TV)

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** **«Солдаты. Дембель неизбежен!»** Сериал.
**09.30** «Автопанорама».
**10.00** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** **«Ангел-хранитель».** Теленовелла.
**11.30** «Дальние родственники».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Мачеха».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Детективные истории».
**14.40** **«Своя команда».** Сериал.
**15.35** **«Отблески».** Сериал.
16.30 «24 часа».
**16.50** «Новые путешествия дилетанта».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Мачеха».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** **«Солдаты. Дембель неизбежен!»** Сериал.
**21.30** **«Личное дело капитана Рюмина»** Сериал.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Минск и минчане».
**23.25** «Репортерские истории».
**23.50** «Кино»: **«БУГИМЕН 2».**

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў.
**17:05** **«Ранча Піковая Сямёрка»,** серыял.
**17:35** **«Каханне, здрада, жарсць»,** серыял.
**18:25** Аблічча таталітарызму: «Падзенне жалезнай заслоны»
**19:25** «Аблавушак», мультсерыял
**19:35** На колах.
**20:05** «ГМА. Прагрэс ці катастрофа?», дак. фільм, рэж. Ларыса Кабернік, 2009 г., Беларусь
**20:35** Хто ёсць кім?: Сяржук Вітушка
**21:00** Аб'ектыў.
**21:25** Еўрапейскі Звяз без сакрэтаў: «Еўразвяз клапоціцца пра слабых»
**20:40** Рэпартэр.
**22:05** «Першая сустрэчная» , маст. фільм
**23:40** Аб'ектыў.

# Ëåê³ ³ ïðû¸ì åæû

**Існуе, прынамсі, 200 лекавых прэпаратаў, на эфектыўнасць якіх уплывае ежа. Як з дапамогай сілкавання ўзмацніць дзеянне лекаў ці, наадварот, паменшыць іх непажаданыя эфекты?**



**Супрацьзапаленчыя**

Хто прымае. Усе, хто мучыцца ад боляў пры артрытах, запаленнях звязкаў, мышц і суставаў. Прызначаюць іх і пры зубным болі, неўралгіях, прастудзе.

**Асаблівасці дыеты.** Пры працяглым прыёме гэтыя сродкі могуць аказваць раздражняльнае дзеянне на страўнік, таму іх трэба прымаць пасля ежы, запіваючы вялікай колькасцю вады, малака ці мінеральнай вады. Само сілкаванне не павінна перанапружваць страўнік — пазбягайце вэнджанага, смажанага, вострага. Ужывайце больш ахінальных прадуктаў (кісель, аўсянка).

**Сардэчныя:** людзі з высокім артэрыяльным ціскам, стэнакардыяй.

**Асаблівасці дыеты.** Прыём прэпаратаў для паніжэння ціску адначасова з вялікай колькасцю чарнаплоднай рабіны ці бурака можа прывесці да гіпатаніі (паніжанага ціску), бо апошнія валодаюць сасудапашыральнымі ўласцівасцямі. Калі чалавек з сардэчнай недастатковасцю выкарыстоўвае сардэчныя глаказіды (сродкі, якія нармалізуюць рытм сэрца), неабходна есці больш прадуктаў, што змяшчаюць калій: фасоль, бульбу, крупы, рыбу. Гліказіды павольна ўсмоктваюцца ў кішэчніку, і ўсё, што спрыяе яго найскораму апаражненню, прывядзе да заўчаснага вызвалення лекаў яшчэ да таго, як яны паспеюць падзейнічаць. Не прымайце іх адначасова з фруктовымі сокамі, чорным хлебам, мёдам, стравамі з гародніны, грэчкай.

**Мачагонныя:** людзі з ацёкамі, хваробамі сэрца — для вываду лішняй вадкасці.

**Асаблівасці дыеты.** Разам з непатрэбнай вадкасцю выводзяцца і неабходныя арганізму калій і магній — гэтыя страты трэба папаўняць: есці печаную ці вараную (у мундзіры) бульбу, аўсянку, грэчку, сухафрукты, свежую гародніну і садавіну. Некаторыя мачагонныя прэпараты могуць паўплываць на ўтрыманне ў крыві глюкозы, халестэрыну, на абмен тлушчаў. Таму людзям, якія пакутуюць сардэчнымі хваробамі ці дыябетам, прымаючы гэтыя лекі, трэба выконваць рэкамендаваную дыету.

**Прэпараты жалеза:** людзі з нізкім узроўнем гемаглабіну, анеміяй.

Асаблівасці дыеты. Нельга прымаць разам з малаком і прадуктамі, у якіх шмат шчаўевай кіслаты ці дубільных рэчываў (моцным чаем і кавай, шчаўем, чарніцамі і інш.), і з прадуктамі, якія змяшчаюць фіцін (арэхамі, пшаніцай), — яны абмяжоўваюць усмоктванне прэпаратаў жалеза.

**Антыдэпрэсанты:** людзі ў стане дэпрэсіі, трывогі, апатыі.

**Асаблівасці дыеты.** Выключаны з рацыёну ўсе выгляды сыроў, селядзец, кансервы, разынкі, ёгурт, ласось, кава, шакалад, піва, чырвоныя віны, бананы, ананасы, цытрусавыя, вінаград, арахіс — гэтыя прадукты ўтрымоўваюць цірамін і сератанін, якія могуць паменшыць эфектыўнасць антыдэпрэсантаў, а часам нават спраакакаваць узмацненне пабочных эфектаў (напрыклад, уздым артэрыяльнага ціску).

Лекары завуць гэта «сырным» сіндромам.

**Звярніце ўвагу**

Як правіла, прыём большасці лекаў не накладвае поўную забарону на тыя ці іншыя прадукты. Калі ў інструкцыі вы прачыталі, што прэпарат не спалучаецца з тым ці іншым прадуктам, проста зрабіце двухгадзінны перапынак паміж прыёмам лекаў і ежай. У асоба сур'ёзных выпадках лекар абавязкова абмяркуе з вамі падыходзячую дыету.

Калі ў анатацыі да лекаў не абумоўлены час іх прыёму, значыць, дзеянне прэпарата не залежыць ад прыёму ежы.

# Êàðûñöü ³ øêîäà ìàëàêà



Алена Іонава

**У Германіі малако і малочныя прадукты – на першым месцы па папулярнасці і аб'ёмах продажаў – пасля піва, вядома. І вось група дыетолагаў з Мюнхенскага ўніверсітэта вырашыла сістэматызаваць самыя розныя дадзеныя пра тое, як жа рэальна гэты напой дзейнічае на арганізм чалавека.**

**1.** Натуральнае малако (асабліва казінае) утрымоўвае антыбактэрыйныя рэчывы, якія перашкаджаюць размнажэнню небяспечных мікробаў – стафілакокаў і стрэптакокаў.

**2.** Таксама малочныя кіслоты ўдзельнічаюць у выпрацоўцы клетак імуннай сістэмы. Таму пару шклянак малака ў дзень проста неабходны аслабленым хворым пры сухотах, запаленні лёгкіх, абвастрэннях бранхіяльнай астмы і бранхітах.

**3.** З большага нейтралізуе ўздзеянне на тканкі арганізма чалавека радыяцыі і таксічных рэчываў. Пры лёгкім атручванні ўгарным газам, напрыклад, ці парамі бензіну, калі чалавек у свядомасці, лекары раяць адпойваць яго малаком. Дарэчы, адгэтуль жа традыцыя на таксічных вытворчасцях даваць «малако за шкоднасць».

**4.** Сарбіруе шматлікія прыродныя яды, таму ў сярэдняй вякі сырадой ужывалі ў якасці проціяддзя.

**5.** Натуральнае малако ўтрымоўвае вялікую колькасць пратэінаў – жывёльных бялкоў, якія неабходныя для абменных працэсаў і падтрымання мышачнага тонусу, пры гэтым халестэрыну ў ім менш, чым у мясе.

**6.** Дзякуючы ўтрыманню вялікай колькасці кальцыя, спрыяе ўмацаванню костак і зубоў і засваенню вітаміна D. Жыхарам Паўночнай Еўропы малако патрэбней, чым паўднёўцам: у іх мала сонца і засваенню вітаміна D трэба дапамагаць.

**7.** Малако багата вітамінамі групы B, каліем, цынкам, натрыем і фосфарам.

**8.** Здымае боль пры гастрыце і язве страўніка з павышанай кіслотнасцю дзякуючы таму, што змяншае кіслотнасць страўнікавага соку. Але пры гастрыце з паніжанай кіслотнасцю ад малака лепш адмовіцца.

**9.** Проціпаказана пры калітах (запаленнях кішэчніка) – выклікае ўздуцце жывата. Валодае ўласцівасцямі лёгкага слабільнага. Проціпаказана пры растройствах кішэчніка, якія суправаджаюцца дыярэяй.

**10.** Цёплае малако аказвае абязбольвальнае дзеянне пры запаленнях печані, нырак і жоўцевага пузыра.

**11.** Абмежаваць ужыванне малака варта, калі ў вас ёсць схільнасць да ўтварэння камянёў у нырках ці жоўцевым пузыры.

**12.** Пры ўсіх сваіх бясспрэчных плюсах, уваходзіць у пяцёрку самых магутных харчовых алергенаў. Калі чалавек, які пакутуе рэакцыяй на малочныя цукры, выпе шклянку малака, у яго можа здарыцца нават анафілактычны шок.

**13.** Прыкладна 8-10% насельніцтвы Еўропы пакутуюць непераноснасцю малака. Спробы паспрабаваць яго заканчваюцца ўздуццем жывата. Чыннік у тым, што ў гэтых людзей не выпрацоўваецца страўнікавы фермент лактаза, які расшчапляе малочныя цукры.

**14.** Варта адмовіцца ад малака пры наяўнасці пухлін унутраных органаў. Яго біяактыўныя рэчывы могуць спраакакаваць іх рост. Таксама свежае малако не рэкамендуецца пры артрытах.

**15.** Малако дзейнічае на скуру як выдатны адбельваючы сродак. Малочныя ванны па прыкладзе сярэдневяковых арыстакратак робяць скуру мяккай, аксамітнай, надаюць цудоўнае персікавае адценне. Маскі з тлустым малаком ці слівкамі ўвільгатняюць, разгладжваюць і змякчаюць скуру. Мыццё малаком здымае сверб і лушчэнне скуры.

## Çäàðýíí³

# Äûðýêòàð ñåëüñêàãà Äîìà êóëüòóðû ¢ Âîðàíà¢ñê³ì ðà¸íå íåçàêîííà ïðàäàëà íÿìåöê³ ðàÿëü, ÿê³ ìàå ã³ñòîðûêà-êóëüòóðíóþ êàøòî¢íàñöü

**У Воранаўскім РАУС распачата справа па ч. 3 арт 210 Крымінальнага Кодэкса (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі) у дачыненні да дырэктара аднаго з сельскіх дамоў культуры.**

Вячаслаў Будкевіч, *БелаПАН.*

Як паведаміў БелаПАН супрацоўнік аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гродзенскага аблвыканкама Ігар Белазёраў, дзяўчына вырашыла палепшыць сваё фінансавае становішча, прадаўшы казённы раяль, балансавы кошт якога складаў каля 10 млн. рублёў.

Уступіўшы ў змову са сваім знаёмым, індывідуальным прадпрымальнікам па рамонце музычных інструментаў, яна ўчыніла крадзеж канцэртнага раяля ручной зборкі"Блютнер" 1965 года выпуску. Раяль быў выпушчаны ў Германіі і з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю. Знайшоўшы пакупніка, дырэктар папрасіла бізнесмена зрабіць даведку аб няспраўнасці раяля. У заключэнні было напісана, што рамонту ён не падлягае, а значыць, яго можна спісаць. Але дырэктару не хапіла цярпення, інструмент разбралі і вынеслі з Дома культуры. Пакупнік заплаціў за раяль 8 тыс. долараў і, паводле папярэдняй інфармацыі, тут жа памясціў аб'яву ў інтэрнеце з прапановай аб продажы музычнага інструмента за 150 тыс. долараў.

Адсутнасць абавязковага акта спісання раяля зацікавіла службовых асоб аддзела культуры Воранаўскага райвыканкама, якія і звярнуліся ў міліцыю. Дырэктар паспрабавала прадставіць дакумент, але ўжо было позна.

# Ñïðîáà çàâàëîäàöü ÷óæûì â³íîì ñêîí÷ûëàñÿ äëÿ äâóõ ì³í÷àí çìÿø÷ýííåì ïàä âàðòó

Вячаслаў Будкевіч, *БелаПАН.*

**У дачыненні да 35-гадовай мінчанкі і яе 27-гадовага прыяцеля, раней судзімых за крадзеж, разбой і грабеж у Фрунзенскім РУУС сталіцы распачата крымінальная справа па артыкуле аб грабяжы ў складзе групы асоб (ч. 2 арт. 206 КК). Яны заключаны пад варту.**

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама, крымінальная парачка завалодала дзвюма бутэлькамі недарагога добрага віна, набытых грузчыкам аднаго са сталічных рынкаў, які вяртаўся з працы дадому.

Спачатку яны папрасілі 57-гадовага мужчыну падзяліцца па-сяброўску, а калі ён адмовіўся, незнаёмец стаў вырываць торбу са спіртным з рук яе ўладальніка, а яго спадарожніца зубамі ўчапілася ў пакет, намагаючыся прагрызці дзірку. У няроўнай барацьбе віно перайшло ў рукі зламыснікаў, якія праз некаторы час былі затрыманы міліцыяй.

## ІМЯНІНЫ

**13 траўня**
**Пр.:** УНЕБАШЭСЦЕ ГАСПОДНЯЕ, Васіля, Мікіты, Якава.
**К.:** УНЕБАШЭСЦЕ ПАНСКАЕ, Глорыі, Жанны, Андрэя, Роберта.

**14 траўня**
**Пр.:** Ніны, Тамары, Ерамея, Ігната, Яфіма.
**К.:** Баніфата, Марыі, Юстыны, Міхала, Мацея.

**15 траўня**
**Пр.:** Зоі, Апанаса, Барыса, Глеба, Давыда, Рамана.
**К.:** Соф'і, Ізыдара, Надзеі, Яна.

**16 траўня**
**Пр.:** Пятра, Цімафея, Мікалая.
**К.:** Андрэя, Венчыслава, Сымона.

**17 траўня**
**Пр.:** Пелагеі, Ісака, Кірылы, Мікіты.
**К.:** Веранікі, Веры, Віктара, Славаміра.

**18 траўня**
**Пр.:** Ірыны, Абрама, Якава.
**К.:** Аляксандры, Эрыка, Наталлі, Яна.

**19 траўня**
**Пр.:** Дзяніса.
**К.:** Мікалая, Пятра, Іны.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| В … и прах | | Лекарственное растение | Приятная расслабленность | | Народ в Того | Богиня неба у древних египтян | | Испанский футбольный клуб |
| Сострадание | | | | | | | | Широкое женское пальто |
| Греческая буква | | | Штат в США | | | | | |
| Маскировка | Рыба сем.-ва карповых | | Кустарник-паразит | | | | | |
| | | | | | Враг | | Глава Венеции или Генуи в сред. века | |
| | Спортивный поединок | | Мастер высокого класса | | | Кисломолочный напиток | | Глаза на … полезли |
| | | | | Инъекция | | | | |
| | Мыслитель | | Окисел | Франц. автомобиль | | | | |
| | | | | | | | Святые останки | |
| | Часть зрительного зала | Налог с мусульман | | Сын Ноя | | | | Экскурсовод |
| | | | | Горная ледниковая долина | | | | |
| | Обод колеса | | | | | Овощной суп | | |
| Англ. единица длины | | | | Шерстяная ткань | | | | |

**Ответы на сканворд № 18**

**По горизонтали:** Геб. Пас. Шпалера. Азу. Юм. Мот. Бюст. Рык. Ки. Лар. Друг. Оха. Майкоп. **По вертикали:** Голубцы. Бирюса. Аш. Спата. Аз. Амт. Метод. Рига. Клок. Храп. "Кум". Ахо.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Пачатак тыдня лепш правесці актыўна. У гэтыя дні поспех ідзе за вамі па пятах, не спудзіце яго. Не забывайце, што паміж людзьмі павінна быць дыстанцыя - нават паміж самымі лепшымі сяброўкамі. Намеры ў іх заўсёды добрыя, толькі вось вынікам часцей за ўсё бываюць вашы слёзы. Каб не пашкадаваць пра сваю залішнюю шчырасць, паспрабуйце хоць бы на гэтым тыдні трымаць свае таямніцы і сакрэты пры сабе.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы так старанна выконвалі абавязкі апошні час, што акружаючыя пачалі ўспрымаць гэта, як належнае. На гэтым тыдні вы можаце дазволіць сабе пабыць капрызным дзіцем – як бы моцна не абураліся акружаючыя. Гэта ваша прывілея - і яна ў вас на ўвесь тыдзень. Таму вашым блізкім, сябрам і каханым прыйдзецца пайсці вам насустрач, бо па вялікім рахунку на вас немагчыма злавацца – такая вы выдатная і абаяльная асоба.

**БЛІЗНЯТЫ.** Тыдзень запатрабуе ад вас праявы ўсёй вашай прыроднай лагоднасці і разважлівасці, каб перанесці тыранію сямейнікаў. Вы разважлівы чалавек, паспрабуйце глядзець на выбліскі дрэннага настрою і жаданне пакамандаваць, як на прыродную з'яву, якая непазбежная, але абавязкова скончыцца. Назапасьцеся цярпеннем, яно вам спатрэбіцца. У другой палове тыдня вызначыцеся з важнай справай, якая працяглы час займала вашы думкі. У выхадныя можа адбыцца сустрэча, якую вы з нецярпеннем чакаеце.

**РАК.** На гэтым тыдні ў вас будзе вялікая спакуса зваліць на каго-небудзь усе свае памылкі. Гэта вядома, прасцей за ўсё, але лепш устрымайцеся ад гэтага. Пачніце ўсё з белага ліста, так сумленней і прыгажэй – гэта выпрабаваны ход, і новыя павабныя перспектывы не прымусяць сябе доўга чакаць. Бліжэй да канца тыдня варта праявіць вытрымку, гэта дазволіць вам не стаць закладнікам сітуацыі, а насупраць - павярнуць сітуацыю ў сваю карысць. З каханым чалавекам цяпер лепш згаджацца.

**ЛЕЎ.** Гэты тыдзень пройдзе ў вас пад знакам настальгіі. Тое, што адбываецца, прымусіць вас успомніць недалёкае мінулае – і гэта будуць прыемныя ўспаміны, ад іх вы станеце мякчэй і дабрэй. На гэтым тыдні нікому не кажыце "няма", не ссылайцеся на занятасць (калі хтосьці захоча ўбачыцца з вамі), не скупіцеся (калі хтосьці папросіць пазычыць). У выніку ваша становішча прыкметна палепшыцца. Паразважайце над тым, што замінае вам рухацца наперад. Магчыма, ад чагосьці трэба адмовіцца?

**ПАННА.** Добры настрой будзе вашым спадарожнікам увесь тыдзень. Тыдзень - лепшы час для зносін з дзецьмі, вы выдатна з імі зладзіце. Звярніце ўвагу на тое, што кажуць дзеці пра ваша найбліжэйшае асяроддзе. Ваша шчырасць і раскаванасць выклічуць захапленне ў процілеглага пола. Магчыма, вас чакаюць лёгкія і прыемныя адносіны, успаміны, якія вы захаваеце надоўга. У выхадныя пазбягайце абвастрэння хранічных захворванняў.

**ШАЛІ.** На гэтым тыдні вы зразумееце важнасць такіх каштоўнасцяў, як праўда, дабро, прыгажосць і каханне мужчыны і жанчыны. Акалічнасці складуцца так, што вам прыйдзецца прызнаць, што яны зусім не надуманыя, а рэальныя. Прыйдзеце да думкі, што вам неабходна задумацца пра сваё духоўнае жыццё. Хтосьці з вашага блізкага асяроддзя мае патрэбу ў дапамозе? Надышоў час рэальна дапамагчы не словам, а справай. Калі настрой сапсаваны, пастаўцеся да падзей па-філасофску.

**СКАРПІЁН.** Гэты тыдзень адкрые вас акружаючым з самага нечаканага боку: яны зразумеюць, што вы - сапраўдная скрыначка з каштоўнасцямі. Вашы таленты заквітнеюць бурным колерам - грэх іх не прадэманстраваць. Асабліва будзе атрымоўвацца ўсё, што злучана з творчасцю. Інтэр'ер вашай кватэры патрабуе абнаўлення - прысвяціце гэтаму занятку выхадныя. Таксама на працягу тыдня вас чакае шмат прыемных сустрэч, добрых слоў і шмат-шмат кахання; і вы гэта заслужылі.

**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні вам прыйдзецца зведаць нямала расчараванняў. Каб неяк прыхарашыць гэты не самы лепшы час, сустрэньцеся са старымі сябрамі і сяброўкамі. А сустрэўшыся, не бойцеся паплакаць і паскардзіцца на жыццё. Часам гэта дазвольна і карысна. Удосталь нагаласіўшыся, пачынайце дзейнічаць, таму што актыўнасць - лепшая тактыка, якую вы можаце сабе ўзяць за правіла. Толькі такім чынам можна выправіць ранейшыя памылкі, а таксама значна палепшыць уласнае жыццё ў цэлым.

**КАЗЯРОГ.** Час поспехаў і перамог працягваецца. Аднак яшчэ ёсць планы, якія патрабуюць значных выдаткаў як у грашовым, так і ў маральным стаўленні. Дзейнічайце - тут вас таксама чакае поспех. Не забывайце прыслухоўвацца да знакаў лёсу. Цяпер вы віртуозна валодаеце інтуіцыяй, якая, нібы пуцяводная зорка, вядзе вас па жыцці. Не забывайце падзяліцца добрым настроем з блізкімі і сябрамі. Яны шчыра парадуюцца за вас, і вы, нарэшце, зразумееце, што зайздрасць уласцівая не ўсім.

**ВАДАЛЕЙ.** На гэтым тыдні вашы ідэі і мары здабудуць больш выразныя і ясныя формы. Вы разбярэцеся самі ў сабе, і гэта вас моцна ўразіць – вам захочацца дзейнічаць і неадкладна. Вы зможаце атрымаць жаданае, калі адмовіцеся ад мітуслівасці, станеце дзейнічаць выразна, дакладна і з размахам. У каханні трэба дзейнічаць з дакладнасцю наадварот: рэзкія рухі цела тут толькі спудзяць прадмет запалу. Не спяшайцеся, цяпер той выпадак, калі час чакае.

**РЫБЫ.** На гэтым тыдні вы ўразіце ўсіх. Начальства вас шануе, супрацоўнікі прыслухоўваюцца да вашага меркавання, падначаленыя гатовыя насіць на руках? Ці то яшчэ будзе! Новыя захапленні, знаёмствы, сустрэчы – сапраўдны вір падзей. Ваш чароўны арэол нікога не пакіне абыякавым. Толькі будзьце акуратней, не разбівайце сэрцы. Чужыя слёзы дрэнна адаб'юцца на вашай карме. Цяпер лепш засяродзіцца на чымсьці адным: гэта тычыцца як працы, так і асабістага жыцця.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 11 траўня

Наклад 2000 паасобнікаў

Замова №

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
тэлефон / факс: (02156) 2 46 14;
E-mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800 г. Глыбокае п/с 3

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.



ISSN 2077-8023

